# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 23 (693) 8 ЧЭРВЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


У працэсе інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі адно з найвялікшых заданняў прыпадае сельскагаспадарчай службе. У апошнім часе многа змянілася ў галіне набліжэння сельскагаспадарчых спецыялістаў непасрэдна да сельскай гаспадаркі. У кожнай ГРН створана штат агранома, а ў многіх радах ёсць нават яго памочнікі. Для вядзення адміністрацыйных спраў сельскай гаспадаркі паклікана штаты сельскагаспадарчых рэферэнтаў. Аб сваіх клопатах і праблемах гаворыць аграном ГРН Храбалы ў Бельскім павеце **Яўгеній Гаворка.**

— Ужо са тры месяцы не мог я выбрацца да гаспадароў на вёску. Адседжваю ў ГРН і пішу як не адну то другую справаздачу ці інфармацыю. Клічу сюды, згодна з указаннямі вышэйшых улад, гаспадароў, праводжу з імі размовы на тэму ўгнаенняў.

— І што?..

— На працягу апошніх трох год плёны ў храбалоўскай ГРН павялічыліся з 16 на 18 працэнтаў з гектара.

— Дык добра...

— Не зусім. Каб было добра, дык мы не клікалі б гаспадароў на індывідуальныя размовы ў справе абавязку прымянення мінеральных угнаенняў.




Нашыя гаспадары часта баяцца сеяць мінеральныя ўгнаенні гаворачы, што вылажыць збожжа. А гэта абазначае, што яны не ведаюць, як і колькі пад што сеяць. Часта задаю гаспадарам пытанне. — А хадзіў ты на шкаленне? — Так, — адказвае. — А памятаеш, што там гаварылі? — Адкуль, — гаворыць, — я забыў, што ўчора на снеданне еў, не толькі што...

Яўгеній Гаворка — гэта стары стажам аграном. Гаспадароў сваёй грамады дасканала ведае. Лічыць, што да гаспадарскай душы пры дапамозе павестак і размоў, праведзеных у ГРН, не дабярэшся.

— У часе такой размовы кожны гаспадар падпісвае абавязацельства, што ў даным тэрміне выкупіць угнаенні. Маем большасць такіх гаспадароў, што яны вельмі лёгка падпісваюць, але не рэалізуюць.

На думку Гаворкі адным з найлепшых метадаў уздзеяння на гаспадара з'яўляюцца даследчыя ўчасткі. Такі ўчастак быў заложаны ў І. Каршака ў Гацьках. Даў ён указаную аграномам дозу ўгнаенняў пад ячмень. Ваколіцу два разы наведалі ўраганы. Ячмень палажыла, але абодва разы ўстаў. Гаспадар сабраў плён 26—27 цэнтнераў з га. Зараз там пераконваць нікога не трэба.

— За выключэннем ільну ў нас не вельмі многа кантрактуюць гаспадары. Лён ідзе таму, што яго сеюць на выараных зялёных угоддзях і ўсяваюць туды траву. З гэтага маюць лён, а потым дасканалыя сенажаці.

Дапамога сельскагаспадарчых установ амаль ніякая, за выключэннем «Цэнтралі насеннай». Дзіўная рэч, але кантрактатары ільну клапоцяцца толькі, каб найбольш закантрактаваць, а потым іх нічога не датычыць. Яшчэ спрытней робіцца з зялёнымі ўгоддзямі. Тут абслуга, з адпаведнай у Бельску ўстановы, клапоціцца, каб выпісаць, колькі мінеральных угнаенняў узялі гаспадары з цэлай ГРН, дзеліць іх на колькасць гектараў зялёных угоддзяў і такім чынам у справаздачах мае

Працяг на стар. 4



У свеце народнага мастацтва. Фота ЦАФ — Сянько

## VI З'езд БГКТ

# БОЛЬШ УВАГІ ВАРШАЎСКАМУ АДДЗЕЛУ

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ СТАРШЫНІ ВАРШАЎСКАГА АДДЗЕЛА БГКТ ЮРКІ БУСЛОВІЧА)**

Праўленне Варшаўскага аддзела БГКТ не праходзіць міма падзей, што адбываюцца ў нашай краіне. У сакавіку мінулага года скіравалі мы ў Варшаўскі камітэт ПАРП дэкларацыю, у якой, між іншым, гаворыцца, што члены нашага таварыства ніколі не выступяць супраць народнай улады. Мы з'яўляемся патрыётамі Польшчы, чужы нам нацыяналізм, заўсёды будзем бараніць прынцыпаў інтэрнацыяналізму.

Напэўна добрым бокам працы Варшаўскага аддзела з'яўляецца той факт, што ў варожых сакавіцкіх выступленнях не прынялі ўдзелу члены Беларускага таварыства і наогул студэнцкая моладзь беларускай нацыянальнасці.

Варшаўскі аддзел налічвае 254 асобы. Аддзел з'яўляецца інтэлігенцкім. 164 члены аддзела — працоўная інтэлігенцыя. 86 асоб мае вышэйшую адукацыю, 78 — сярэднюю, 51 асоба — студэнцкая моладзь вышэйшых навучальных устаноў Варшавы, і толькі 39 асоб складаюць рабочыя, якія працуюць на розных заводах і прадпрыемствах сталіцы. Беручы пад увагу асабовы склад Варшаўскага аддзела, а таксама ролю, якую аддзел адыгрывае, і якую можа адыграць, у працы таварыства, у падрыхтоўцы кадраў да арганізацыі гаспадарчага і культурна-грамадскага жыцця Беласточчыны, ГП БГКТ павінна больш дацаніць аддзел у сваёй працы. З мэтай больш цеснай сувязі ГП БГКТ з аддзеламі трэба планаваць выязныя пасяджэнні Галоўнага праўлення. З мэтай абмену вопытам трэба таксама наладжваць супольныя пасяджэнні гарадскіх аддзелаў: Варшаўскага, Беластоцкага і Гданьскага. Прапануем таксама абмен вопытам паміж паасобнымі аддзеламі на Беласточчыне.

Варта заўважыць, што на працягу трох мінулых год на культурна-асветную працу (даклады, аўтарскія вечарыны) прызначана Варшаўскаму і Гданьскаму аддзелам вельмі малыя сродкі. Усе нашы мерапрыемствы наладжваем мы без граша. Нашы дакладчыкі і паэты праводзілі адчытовую дзейнасць грамадска. На працягу мінулых год правялі мы 20 дакладаў, 7 аўтарскіх вечароў, 8 акадэмій, 3 навагоднія сяброўскія сустрэчы, 3 ёлкі для дзяцей, 4 канцэрты хору, 13 выставак і фотавыставак. У сваёй адчытовай дзейнасці выкарыстоўваем мы гасцей — навуковых працаўнікоў з Савецкай Беларусі, а таксама і польскіх навуковых работнікаў. Многія тэмы нашых дакладаў можна было б перанесці на Беласточчыну.



Фота Цаф — Сянько

Да працы мастацкага калектыву пры Варшаўскім аддзеле падыходзім не толькі як да мастацкага абеспячэння розных акадэмій, але ў першую чаргу як да гуртавання моладзі і прывівання

Працяг на стар. 4




## Моладзь у нашых сценах

Ніжэй падпісаны з'яўляецца частым госцем у памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ. Давялося мне таксама неяк пабываць на некалькіх ужо справаздачна-выбарчых канферэнцыях сталічнага аддзела Беларускага таварыства. Чым далей, тым больш выразна можна заўважыць гэтую з'яву: да таварыства прыходзяць новыя людзі. Гэта моладзь, якая нарадзілася і выхавалася ў Народнай Польшчы. Асабліва відаць гэта ў Варшаве, дзе сярод членаў і сімпатыкаў БГКТ мноства студэнцкай моладзі — пераважна родам з Беласточчыны.

У памяшканні Варшаўскага аддзела дзве рэчы цікавяць перш за ўсё наведвальнікаў — гэта тэлевізар і магнітафон. Тэлевізар цікавіць наведвальнікаў старэйшага і сярэдняга ўзросту. Для маладога пакалення істотны перш за ўсё магнітафон.

На магнітафоннай плёнцы найграна некалькі дзесяткаў розных мелодый і песень. Усе мелодыі сучасныя, бігбітныя, у розных авангардных выкананнях. Час ад часу паяўляецца Чэслаў Нёман. Аб ім гэта нехта нядаўна пісаў, што ён можа з роўным талентам заспяваць фрагмент з падручніка заалогіі, прамову міністра, што і фрагмент з Бібліі. З магнітафоннай плёнкі Нёман абвяшчае аднак перш за ўсё паніку: «Плоне стодола, жэ аж страх! Ах! Ах!» — крычыць, што здаецца перапонкі лопнуць.

Мяне аднак цікавіць не стыль спявання Нёмана, а стыль танцавання варшаўскай моладзі. Як гэта можна танцаваць?! Моладзь аднак танцуе ў рытм нёманаўскай панікі ў агульным, грамадным танцы аж дрыжыць падлога ў памяшканні на Сенатарскай. Гледзячы здавалася б, што нічога яе больш і не цікавіць — прынамсі ў Беларускім таварыстве. Аднак...

Аднак гэта не так. На канферэнцыі Варшаўскага аддзела БГКТ пераважала моладзь. Прыбыла яна з розных канцоў сталіцы не гледзячы на страшэнна халоднае і мокрае надвор'е. Да дыскусіі не трэба было заахвочваць. Успыхнула яна гвалтоўна зараз жа пасля справаздачнага даклада і мела характар па-юнацкаму гарачы і непасрэдны. Маладыя людзі непрывычныя да напышлівага стылю канферэнцый і нарад рэагавалі эмацыянальна, перарывалі сабе ўзаемна, часта сварыліся. Дыскутавалі аб тым, што зрабіць, каб у Варшаве на Сенатарскай можна было прыемна правесці час і чагосьці карыснага павучыцца.

Пасля канферэнцыі правёў я з некаторымі студэнтамі цалкам прыватныя размовы. Студэнты мелі многа прэтэнзіі і засцярог да працы таварыства і «Нівы». Даведаўся я пры аказіі, што ў Варшаве сярод студэнтаў розных навучальных устаноў ідуць часта заўзятыя спрэчкі на тэму нацыянальнага самаакрэслення, жыцця нацыянальных меншасцей і працы нацыянальных таварыстваў, на тэму іх перспектыў. Маладыя людзі паставілі мне шэраг пытанняў, на якія не лёгка было адказаць.

Моладзь шукае. Шукае больш дакладнага акрэслення сённяшняй сваёй сітуацыі і гістарычнай традыцыі, якая з'яўляецца сёння сокам усялякага грамадскага жыцця. Моладзі не хапае ўжо прымітыўнае паўсюднае да нядаўна акрэсленне беларуса, як таго, хто выводзіцца з праваслаўнай сям'і на Беласточчыне — шукае яна больш сучаснага акрэслення нацыянальнай прыналежнасці. Мусіць шукаць. Бо свет, у якім давялося ёй жыць, вучыцца і працаваць, з'яўляецца светам сучаснасці.

Ці гэтыя пошукі, спрэчкі і дыскусіі знойдуць сваё месца ў рамках БГКТ? Ці маладыя людзі знойдуць падтрымку і дапамогу з боку старэйшых? Ці — наадварот — будуць гэта пошукі адзінокіх маладых людзей прысуджаных на размову з самім сабою і сваімі найбліжэйшымі сябрамі?

Залежыць гэта не толькі ад моладзі. Залежыць гэта перш за ўсё ад таварыства. Залежыць ад таго, ці здолее яно па-сапраўднаму прыцягнуць да сябе маладое пакаленне са свежымі поглядамі і ідэямі і стварыць адпаведную платформу да такой дыскусіі.

**Ул. Паўлючук**

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

## СВЕТ

### ПЛЕНУМ КПЧ

На Градчанскім замку ў Празе адбылося чарговае пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Чэхаславакіі. На парадку дня стаялі наступныя справы: асноўныя заданні партыі ў актуальнай палітычнай сітуацыі, дыскусія, інфармацыя аб падрыхтоўцы да нарады камуністычных і рабочых партый у Маскве, арганізацыйныя справы і пастановы.

Даклад на тэму першага пункта парадку дня меў I сакратар ЦК КПЧ Густаў Гусак. Дакладчык падкрэсліў, што зараз разыходзіцца аб вяртанне да адзінства партыі абапіраючыся на прынцыпах марксізма-ленінізма. Справа заключаецца ў вяртанні да кіраўнічай ролі партыі ў нашым грамадстве, сказаў Г. Гусак, а перш за ўсё ў масавых арганізацыях і ў галіне гаспадаркі і культуры. Разыходзіцца аб камплексовасць крокаў або хаця падрыхтоўку для развязкі цяжкіх гаспадарчых спраў у нашай дзяржаве. Разыходзіцца ўрэшце аб тое, сказаў I сакратар ЦК КПЧ, каб прыняць прынцыпіяльныя рашэнні ў справе нашых суадносін з братнімі камуністычнымі партыямі Савецкага Саюза і сацыялістычных краін.

### ПАСЛЯ ЗАМАХУ Ў СУДАНЕ

25 мая т.г. група маладых афіцэраў зрабіла дзяржаўны пераварот і ўзяла ўладу ў свае рукі ў Судане. А вось некалькі слоў аб самой краіне.

Судан з'яўляецца рэспублікай, а незалежнасць атрымаў 1.I.1956 года, скідаючы няволю англічан. Пражывае тут 14 мільёнаў насельніцтва, у тым ліку 9 мільёнаў арабаў і 4,5 мільёна неграў. Асновай эканомікі з'яўляецца сельская гаспадарка міма, што багата краіна тут такімі прыроднымі багаццямі, як вугалем, жалезнай і высакародных металаў рудой.

Міма, што пераварот быў зроблены ваеннымі, мае ён прагрэсіўны характар. Прэм'ер новага ўрада Судана заявіў, што яго ўрад будзе весці супрацьімперыялістычную палітыку, палітыку ўмацавання міру ва ўсім свеце. Першым крокам новага ўрада было прызнанне ГДР, якая прыхільна адносіцца да прагрэсіўных арабскіх краін.

Цяжка сказаць, якія будуць далейшыя лёсы новага ўрада. Хоча ён у хуткім часе развязаць балючую справу нехрысціянскага насельніцтва, але не будзе гэта лёгкім крокам, таму, што эканамічныя праблемы тут таксама вельмі складаныя. Назіральнікі аднак сцвярджаюць, што новая ўлада зможа ўмацаваць сваю пазіцыю.

### З ВЫБАРАЎ У ФРАНЦЫІ

Другога прэзідэнта V рэспублікі не выбрана. У нядзельных выбарах найбольш галасоў атрымалі: галіст Пампіду і Паэр. Характэрным ёсць, што камуніст Дзікло атрымаў аж 21,4% галасоў. Другая тура выбараў адбудзецца 15 чэрвеня г.г.

А. К.

## БССР

### УЗБРОЕНЫХ

У Цэнтральным Камітэце КП Беларусі адбылася нарада, на якой абмеркаваны пытанні падрыхтоўкі моладзі да службы ва Узброеных Сілах Саюза ССР.

З дакладам на нарадзе выступіў начальнік штаба Чырвонасцяжнай Беларускай ваеннай акругі генерал-палкоўнік Р. Арыка.

### РЭКТАРАЎ

У Мінску адбылася нарада рэктараў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, на якой абмеркаваны пытанні камуністычнага выхавання студэнтаў.

На нарадзе абмеркавана таксама пытанне падрыхтоўкі да новага прыёму студэнтаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі ў 1969 годзе.

### 950-ГОДДЗЕ

Брэст пачаў святкаванні свайго 950-годдзя. Адбылося ўрачыстае пасяджэнне гарадскога Савета дэпутатаў працоўных разам з прадстаўнікамі партыйных, грамадскіх арганізацый і воінаў гарнізона, прысвечанае гэтай знамянальнай гадавіне.

На юбілейныя ўрачыстасці прыбылі ў Брэст дэлегацыі сталіцы Беларусі, Мінска, горада Луцка на Украіне, дэлегацыі гарадоў: Віцебска, Гомеля, Гродна, Магілёва. Удзельнічала таксама дэлегацыя Любліна.

— Свята горада над Бугам — гэта свята братніх славянскіх народаў, трыумф ленінскай нацыянальнай палітыкі, — м. ін. сцвердзіў у сваім выступленні І. Калілец, старшыня брэсцкага выканкома.

Ва ўрачыстасці ўдзельнічаў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР У. Лабанок.

### ЧУРКІНА

Грамадскасць беларускай сталіцы ўрачыста адзначыла статоддзе з дня нараджэння кампазітара Мікалая Чуркіна. Адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме № 18 пры вуліцы Захарава, дзе апошнія гады свайго жыцця жыў вядомы беларускі кампазітар.

У канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся вечар, прысвечаны Мікалаю Чуркіну, заснавальніку беларускай прафесіянальнай музыкі.

### РУХУ

У Мінску адбылася Усесаюзная навукова- тэхнічная канферэнцыя па пытаннях бяспекі руху ў гарадах і на аўтамабільных дарогах краіны.

Міністр аўтамабільнага транспарту БССР А. Андрэеў падзяліўся вопытам бяспекі руху ў аўтамабільных гаспадарках Беларусі.

### АФРЫКІ

Каля двухсот маладых грамадзян Афрыкі навучаюцца ў Беларускім палітэхнічным інстытуце.

### БАЛЕТНАЙ

Славіцца балетная студыя гарадскога Дома піянераў у Пінску. За дзесяць гадоў студыйцы атрымалі на розных конкурсах больш 150-ці ўзнагарод.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ВЫБАРЫ

У нядзелю 1 чэрвеня ўсёй народ нашай краіны выбраў у паўсюдным галасаванні паслоў у сейм і радных радаў народовых. Мандаты паслоў і радных прызнана найлепшым людзям, якія сваёй працай, палітычнай і грамадскай дзейнасцю здабылі агульную падтрымку і давер. Будуць яны ў бліжэйшыя 4 гады арганізаваць грамадскія намаганні ў будове ўсё лепшай будучыні нашай краіны.

Выбары папярэдзіла 2-месячная вялікая, агульнанародная дыскусія на тэму мінулага, сучаснасці і будучыні нашай Айчыны. На тысячах сустрэч, мітынгаў і сходаў падтрымана праграму Фронту адзінства народа, якая адкрывае новае 25-годдзе існавання Сацыялістычнай Польшчы. Выключна вялікі быў удзел моладзі. Першы раз у жыцці галасавала звыш 2,5 мільёнаў дзяўчат і хлопцаў, якія атрымалі свае грамадзянскія выбарчыя правы.

Масавы ўдзел, ажыўленне, а адначасова настрой павагі, годнасці і гонару з дасягненняў асабістых і ўсяе краіны, святочныя дэкларацыі — вось галоўныя акцэнты выбарчай нядзелі. Галасаванне пачалося ў 6 гадзін раніцы, а яшчэ перад адкрыццём выбарчых памяшканняў збіраліся групы людзей, якія хацелі як мага хутчэй выканаць свой грамадзянскі абавязак. З прычыны розніцы часу — раней пачалося галасаванне на адлеглых кантынентах, дзе знайшліся групкі польскіх грамадзян у дыпламатычных і консульскіх пляцоўках, а таксама на караблях плаваючых пад польскім сцягам.

У Варшаве ў памяшканні Выбарчай камісіі № 97 пры вуліцы М. Канапніцкай каля 9 гадзін раніцы свой голас аддаў I сакратар ЦК партыі Уладзіслаў Гамулка. Прыбыў ён у выбарчае памяшканне разам з жонкай, сынам, нявесткай і некалькігадовай унучкай. Прысутныя тут журналісты правялі з ім кароткае інтэрв'ю. **«Я глыбока перакананы,** — сказаў ён, — **што аграмадная большасць грамадзян выканае свой грамадзянскі абавязак, будзе галасаваць на кандыдатаў, якіх прызнае найбольш годнымі выбару да ўлад».**

Старшыня Рады Дзяржавы маршал Польшчы — Мар'ян Спыхальскі, аддаючы свой голас на вуліцы Кляновай у Варшаве, заявіў: «**Кожны, хто сёння галасуе, мае свае планы і намеры. З аказіі выбараў складаю ўсёй Польшчы і кожнаму паляку пажаданні здзяйснення яго ўласных планаў і намераў. Іх здзяйсненне вязацца будзе з рэалізацыяй праграмы Фронту адзінства народа, на якую сёння галасуем».**

Маніфестацыйна прынялі ўдзел у галасаванні сяляне. У многіх мясцовасцях гаспадары ехалі на месца галасавання ў святочна ўпрыгожаных вазах, часта з аркестрам, у народных уборах, з транспарантамі, выказваючы падтрымку для праграмы Фронту адзінства народа.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ВЫБАРЫ

На Беласточчыне, як і ва ўсёй краіне, выбарчая нядзеля прайшла спакойна, працавіта і адначасова незвычайна. Ва ўсіх вёсках і мястэчках ваяводства адчувалася прыўзняты, урачысты настрой. Людзі ведалі, што ў гэты дзень, у дзень выбараў паслоў і радных, яны самі, сваімі галасамі вызначаюць шлях нашай дзяржаве на бліжэйшыя чатыры гады.

Роўна ў шэсць гадзін раніцы пачалі працу ўсе выбарчыя камісіі. У многіх аднак мясцовасцях людзі згуртаваліся перад выбарчымі памяшканнямі яшчэ шмат раней. У вёсцы Чорная Весь Касцельная ў Сямяціцкім павеце грамадзянін Казімір Яськевіч чакаў ужо ад гадзіны 4.20, каб першым аддаць свой голас. У тым жа павеце, у вёсцы Асноўка галасаваў Ян Голуб, якому ўжо 108 год.

Вельмі спраўна праходзілі выбары ў Гайнаўскім павеце. Да 9-ай гадзіны аддало там свае галасы амаль 29% выбаршчыкаў.

У вёсцы Баброўнікі, якая знаходзіцца ля дзяржаўнай граніцы ў Беластоцкім павеце, да 8-май гадзіны раніцы прагаласавала аж 70 працэнтаў выбаршчыкаў.

Традыцыйна ўжо першыя выбаршчыкі атрымалі ад членаў выбарчай камісіі букеты кветак.

Некалькі мінут пасля гадзіны 10-тай у памяшканні Акруговай выбарчай камісіі № 10 у Беластоку аддаў свой голас I сакратар Ваяводскага камітэта партыі тав. А. Лашэвіч. У выбарчым памяшканні з'явіўся ён з жонкай Таццянай, сынам Віктарам і дачкой Антанінай.

Найбольш масава грамадзяне Беластоцкага ваяводства наведвалі выбарчыя памяшканні між 11 і 13 гадзінамі дня. У тым часе аддало свае галасы звыш 526 тысяч выбаршчыкаў, што склала 71,7% упаўнаважаных да галасавання. Адначасова з 9-ці вёсак Беластоцкага павета паступілі паведамленні аб заканчэнні выбараў, а ў вёсках Баброўнікі, Валілы, Залукі, Новая Воля, Падазяраны, Шымкі і Ялоўка свой грамадзянскі абавязак выканала звыш 90% упаўнаважаных да галасавання.

У многіх мясцовасцях выбаршчыкі, асабліва маладыя, прыбывалі ў выбарчыя памяшканні калектыўна, з уласнымі аркестрамі. Так галасавалі члены Саюза сялянскай моладзі са звыш 20-ці гурткоў у Дуброўскім павеце. Так маніфеставалі сваю падтрымку для праграмы Фронту адзінства народа і яго кандыдатаў ва ўсе органы народнай улады.

(вр)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela, 8.VI.**

8.55 Program dnia. 9.00 TV Kurs Rolniczy: „BHP w gospodarstwie". 9.35 „Przypominamy, radzimy". 9.50 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa" (Berlin). 10.50 „Bawcie się z nami". 11.25 Program filmowy. 12.00 Dziennik. 12.15 „Encyklopedia morza' — film. 13.00 Dla młodych widzów: „Ognisko harcerskie — Alert". 13.35 „Spotkania z przyrodą". 14.05 „Przemiany". 14.40 „Spotkanie z pisarzem". 15.10 PKF. 15.25 „Architektura Tatr i Podhala" („Piórkiem i węglem"). 15.50 „Wielka Gra". 16.40 „Ludzie i zdarzenia". 17.00 Mistrzostwa Europy w boksie — finały (Bukareszt). 20.00 „Dobranoc". 20.10 Dziennik. 20.45 Kabaret „Dymek z papierosa" — program p.t. „Piosenka przypomni Ci". 21.45 „Piękna Hipolita" — film fab. wł. 22.40 Wiadomości Sportowe oraz sprawozdanie filmowe z mittingu lekkoatletycznego w Krakowie i z meczu w podnoszeniu ciężarów Polska — Bułgaria (Opole).

**Poniedziałk, 9.VI.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 „Echo Stadionu". 17.55 „Prognozy polskiej chemii" — program publ. 18.25 „Ziemia — ojczyzna ludzi" — film rum. 18.45 „Eureka". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr TV: J. Priestley — „Pan Inspektor przyszedł". 21.40 Dziennik TV i Wiadomości sportowe. 22.00 „Panorama literacka".

**Wtorek, 10.VI.**

9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — E. Schiller — „Zbójcy". 10.35 „Czarna pantera" — film fab. NRD. 12.00 Dla szkół: (kl. II i III) „Syrena w herbie miasta". 12.20 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: „Regulowanie wilgotności gleby". 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.35 Politechnika TV I roku. 16.05 i 23.10 Politechnika TV I roku. 16.40 Dziennik. 16.50 „Muzyka na zamku" — film czechosł. 17.00 „Czwarta zmiana". 17.50 „Czarna pantera" — film fab. NRD. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 22.00 Dziennik. 22.15 Kronika Kongresu Międzynarodowego Komitetu Olimpijskiego.

**Środa, 11.VI.**

9.25 „Czerwony atrament" — film fab. węg. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Metalurgia". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Ciepło i jego skutki". 12.25 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.00 Dla młodych widzów: „Związek Zielonego Zeszytu". 17.20 Magazyn „ITP". 17.30 TV Kurier Warszawski. 17.45 „Człowiek a ziemia". 18.10 „Spotkania muzyczne" — „PROM" — Gra Orkiestra Symfoniczna pod. dyr. J. Krenza. 18.45 „Perspektywy techniki". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 Studio Współczesne. J. Dymny — „Oskarżony". 21.15 PKF. 21.30 Wieczór baletowy do muzyki współczesnych kompozytorów rumuńskich. 22.00 „Światowid". 22.30 Dziennik.

**Czwartek, 12.VI.**

9.55 Dla szkół. (kl. V i VI) Język polski — „Nasz dzień powszedni". 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Język polski — „Film". 12.25 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 i 23.00 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.50 TV Kurier Kielecki. 18.05 „Polska zza siódmej miedzy". 18.35 „Faust i Małgorzata" („Wielkie miłości"). 19.20 „Dobranoc" 19.30 Dziennik. 20.05 „Nad Odrą i Bałtykiem". 20.35 Teatr Kobra: H. Default — „Kłamstwo". 21.45 Program Red. Oświatowej. 22.15 Dziennik.

**Piątek, 13.VI.**

9.25 Film fab. 10.55 Dla szkół; (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Z inicjatywy Komitetu Frontu Jedności Narodu". 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Robot kuchenny". 13.15 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Przysposobienie obronne — „Działalność organizacji społecznych i młodzieżowych w dziedzinie umocnienia obronności kraju". 15.30 i 22.50 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.55 Dla dzieci:„ Kino „Ptyś". 17.05 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Don Kichot" — film. 18.25 „Definicje" — teleturniej. 18.45 „Refleksje". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Z Merkurym na Ty". 20.50 Teatr TV: J. Broszkiewicz — „Skandal w Hellbergu". 22.25 Dziennik. 22.40 „10 minut recenzji".

**Sobota, 14.VI.**

10.15 „Małżeństwo na niby" — film fab. czechosł. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Ochrona zwierząt w Polsce". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół. (kl. V—VIII) Wychowanie obywatelskie — „Szkolne kasy oszczędności". 13.15 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 TV Kurs Rolniczy: „Pytania i odpowiedzi". 16.10 Program tygodnia. 16.30 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego" (Warszawa, Moskwa). 17.45 Międzynarodowe zawody hippiczne o Puchar Narodów (Olsztyn). 18.30 Finał IV Olipmiady Wiedzy Społeczno-Politycznej — ZMW. 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Tele-Echo". 20.50 „Małżeństwo na niby" — film fab. czechosł. 22.25 Dziennik TV i Wiadomości sportowe. 22.45 „Latające gwiazdy" — program rozrywkowy (Sofia).

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 6 czerwca**

8.00 Nowiny. 8.15 „Cuda przyrody" 8.30 „Kultura fizyczna i sport". 9.00 „Na wiejskiej scenie'.' 9.45 Dla uczniów. 11.55 Program dnia. 12.00 Mistrzostwa Europy w boksie. Półfinał. 14.45 Nowiny. 15.00 Koncert z Kremlowskiego Pałacu Zjazdów. 19.15 „Sztafeta nowin". 20.00 TV barwna. 21.00 Program estradowy. 21.50 Kronika mistrzostw świata w szachach. 22.00 „Tylko fakty".

**Sobota, 7 czerwca**

8.00 „Na zdrowie!". 9.00 Ludowa artystka ZSRR I. Archipowa. 10.05 „Wszystkie kolory tęczy". 10.35 „Szkatułka muzyczna". 10.45 Przegląd międzynarodowy. 11.05 „Zostań czarownikiem". 11.20 Mińsk. Bulwar Tołbuchina. 11.55 „Spotkania z Belgią". 12.20 TV teatr dla dzieci. 14.00 TV atlas narodów ZSRR. Buratja. 14.30 Sprawozdanie sportowe. 15.30 Nowiny. 15.45 TV barwna. 17.15 „Po Rusi". Film fab. 18.45 Nowiny. 19.00 Program międzynarodowy. 19.30 Program TV bułgarskiej. 20.10 Koncert laureatów konkursu piosenki radzieckiej (Transmisja z Polski). 21.30 „Tylko fakty".

**Niedziela, 8 czerwca**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 Dla dzieci. 9.00 Almanach literacki. 10.00 Dla uczniów. 11.00 „Godzina wiejska". 12.00 Dla żołnierzy. 12.30 Dziś — Dzień pracowników przemysłu lekkiego. 13.00 TV barwna. 14.30 „Klub filmowy". 15.25 Nowiny. 15.35 „Najdłuższa noc". Film fab. bułg. 17.00 Mistrzostwa Europy w boksie. Finał. 20.00 Program międzynarodowy. 20.45 W eterze „Młodość". 21.45 „Tydzień sportowy".

# НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ШКОЛЬНІЦТВА 1918—1939

Справы школьніцтва нацыянальных меншасцей Польшчы ў міжваенны перыяд — гэта адна з цікавейшых і істотных старонак гісторыі. Істотнай хаця б і таму, што міжваенная Польшча была дзяржавай многанацыянальнай. Кожны трэці жыхар Польшчы быў не польскай нацыянальнасці, а ва ўсходніх і паўднёва-ўсходніх раёнах насельніцтва польскай нацыянальнасці складала наогул меншасць у адносінах напр. да беларусаў і ўкраінцаў. У сувязі з гэтым школьніцтва для нацыянальных меншасцей было істотнай часткай асветнай палітыкі.

Гэтай праблематыкай занялася Працоўня ладу і арганізацыі асветы Польскай Акадэміі навук. Пад яе патранатам выйшла з друку даследванне **Станіслава Мауэрсберга** «Усеагульнае школьніцтва для нацыянальных меншасцей у Польшчы ў 1918—1939 гадах»*). Аўтар вядомых публікацый на тэму пасляваеннага нацыянальнага школьніцтва ў Народнай Польшчы дае ў сваім даследванні вельмі шырокія рысы школьніцтва: украінскага, беларускага, літоўскага, чэшскага, рускага, нямецкага і яўрэйскага.

У першым раздзеле працы, які мае загаловак «Другая Рэчпаспаліта многанацыянальнай дзяржавай», аўтар аналізуе справу нацыянальнасці ў перапісах насельніцтва. Сцвярджае, напрыклад, што ў перапісу ад 1921 г. аж 49 тыс. жыхароў Палескага і Віленскага ваяводстваў падало сваю нацыянальнасць як «тутэйшую» або «мясцовую», а ў сувязі з гэтым крытэрый мовы, як аб'ектыўны крытэрый, поўнасцю не адлюстроўваў нацыянальнасці насельніцтва, што па-рознаму выкарыстоўвала буржуазная прапаганда.

Ва ўспомненым раздзеле знаходзім шырокую характарыстыку міжнароднай і ўнутранай аховы нацыянальных меншасцей у Польшчы. Знаходзім тут таксама шырока ахарактарызаваны Малы версальскі трактат, Рыжскі трактат і Жэнеўскую канвенцыю.

У далейшай частцы даследвання Мауэрсберг аналізуе колькасць насельніцтва паасобных меншасцей. Як вялікую заслугу аўтару трэба прыпісаць той факт, што не гледзячы на афіцыяльныя ўрадавыя дакументы падаў ён лікі, якія прымянялі дзеячы паасобных нацыянальных меншасцей, неадначасова высоўваючы таксама і свае прапановы. Калі разыходзіцца пра беларусаў, дык вынікі перапісу ад 1921 г., паводле якога было іх 1060,2 тыс., аспрэчваў К. Сракоўскі. Сцвярджаў ён, што гэты перапіс пярэчыў дзвюм аксіёмам: што існавалі беларусы каталікі, якіх у спісе не паказана, хаця яны налічвалі каля 25% беларускага насельніцтва, а таксама, што амаль не існавалі праваслаўныя палякі, якіх у двух ваяводствах налічана каля 20% агулу польскага насельніцтва. Сракоўскі налічваў 1.600 тыс. беларусаў. Беручы пад увагу перапіс ад 1931 г. і папаўняючыя данымі даследчыка А. Крысінскага, які сярод жыхароў Палесся налічыў каля 450 тыс. беларусаў з т. зв. «тутэйшай» мовай, Мауэрсберг даходзіць да вываду, што ў канцы трыццатых гадоў было каля 2 мільёнаў беларусаў у Польшчы.

Шырокая характарыстыка ў працы Ст. Мауэрсберга даецца школьнаму закону з 31 ліпеня 1924 г., які даў арганізацыйныя падставы школьніцтву украінскай, беларускай і літоўскай меншасцям. Справы беларускага школьніцтва ў Польшчы міжваеннага перыяду аўтар падзяляе на тры перыяды:

I — ахоплівае 1919—1923 гады г.зн. ад заняцця віленскай зямлі да закона Грабскага з 31 ліпеня 1924 г. Палітыка асветных улад у адносінах да беларускага школьніцтва была ў тым часе поўная хістанняў і некансеквенцый. Папераменна верх бралі то ліберальныя тэндэнцыі, то зноў завастраўся курс супраць беларускай асвеце.

II перыяд ахоплівае 1924—1929 гады і быў фарміраваны пад уплывам закона Грабскага. Дамінуючай тэндэнцыяй была ўтраквізацыя (двухмоўнасць) беларускага школьніцтва.

III перыяд ахоплівае трыццатыя гады. Характэрнай для гэтага перыяду

**(Працяг на стар. 5.)**

# У ДОМЕ ЭЛІЗЫ АЖЭШКА

**(КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА)**

**У Гродне шануюць дом, дзе працавала і памерла Эліза Ажэшка. У ім зараз — абласная бібліятэка, багатая экспазіцыя пісьменніцы і Абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР.**



**Гродзенская моладзь у пакоі з экспазіцыяй, якая паказвае жыццё і дзейнасць Элізы Ажэшка.**



**Загадчыца Абласной юнацкай бібліятэкі імя Карскага — Люда Шагун — знаёміць з экспазіцыяй гродзенскага пісьменніка Васіля Быкава і маскоўскага пісьменніка, загадчыка аддзела прозы часопіса «Дружба народов» Валянціна Аскоцкага.**



**Былая кухарка пісьменніцы, 86-гадовая Анна Іванаўна Бандарчук, расказвае дзяўчатам пра сваю работу ў Элізы Ажэшка, пра сустрэчы з Канапніцкай, Рэймантам, якія прыязджалі гасціць у Гродна да яе гаспадыні.**

**Фота Г. М. Юрэвіча**

## З АГЛЯДУ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ У БЕЛАСТОКУ



**Эстрадны калектыў Рускага культурнага таварыства ў Беластоку. Кіраўнік Міхаіл Ануфрыеў.**

**Фота Цаф — Сянько.**

**На старонках майскага нумара**

# ПОЛЫМЯ

Нумар адкрывае раман-хроніка Міхася Машары «Лукішкі» — трэцяя частка трылогіі пра Грамаду. Гэтым разам паказаны перыяд пасля разгрому Грамады і падзеі адбываюцца ў славутай віленскай турме на Лукішках і ў зале суда ў часе працэсу над грамадаўцамі. Беларуская проза прадстаўлена яшчэ апавяданнямі маладых пісьменнікаў Анатоля Кудраўца і Вісарыёна Гарбука. Паэзія таксама прадстаўлена маладымі аўтарамі: Васілём Макарэвічам (паэма «Мацярык маленства») і Юркам Голубам, які выступае з цыклам новых вершаў. З перакладаў друкуюцца апавяданні бельгійскіх празаікаў Альберта Эгпарса і Анры Карнелюса, а таксама вершы вялікага амерыканскага паэта Уолта Уітмена, якога 150-тая гадавіна з дня нараджэння адзначалася 28 мая.

Варта яшчэ адзначыць цікавыя артыкулы Анатоля Сабалеўскага «Старонкі тэатральнай Леніняны», у якім гаворыцца аб вобразах Леніна ў беларускіх тэатрах і перш за ўсё аб працы вядомага беларускага артыста Паўла Малчанава, які ў свой час быў найлепшым выканаўцам вобраза Леніна на савецкай сцэне і Валянціна Грыцкевіча «З мінулага нашае медыцыны», які прыносіць на гэту тэму шмат цікавых звестак, і з якога даведваемся, што беларуская медыцына мае трывалыя гістарычныя карэнні і знаходзілася ўжо ў даўнія часы на ўзроўні не горшым, чым у іншых краінах.

ювэ

## УВАГА НАСТАЎНІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Ветліва вас паведамляем, што ў новым навучальным годзе, апрача дапаможных матэрыялаў да навучання беларускай мовы, якія друкавалі мы ў гэтым годзе («Родная літаратура» і матэрыял «Зоркі»), увядзем новыя цыклічныя публікацыі, якія будуць таксама служыць вам дапамогай. Між іншым, плануем друкаваць матэрыял па тэорыі літаратуры. Будзем і надалей весці рубрыку «З метадычнай паліцы настаўніка».**

**Просім ужо цяпер задбаць, каб усе школьнікі на верасень мелі выпісаную «Ніву». Заахвочваем таксама выпісваць «Ніву» і ў канікулы. Гэтым самым вучні ў свабодны час будуць паглыбляць свае веды з роднай мовы.**

## Набор у беларускія ліцэі

У беларускіх ліцэях у Бельску і Гайнаўцы ідзе набор вучняў. Успомненыя ліцэі далі ўжо многа высокай рангі кадраў для нашай дзяржавы. Прыводзім прыклад.

Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску ўжо закончыла больш як 750 чалавек. Больш, як 480 яго абсальвентаў закончылі вышэйшыя навуковыя ўстановы, або яшчэ вучацца. Падобна справа выглядае і з выпускнікамі беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы. А вось што трэба зрабіць, каб паступіць у агульнаадукацыйныя ліцэі ў Бельску і Гайнаўцы.

Трэба зләжыць: 1) заяву (паданне), 2) аўтабіяграфію (жыцёрыс), 3) метрыку нараджэння, 4) пасведчанне школы аб тым, што з'яўляешся вучнем 8-га класа, 5) пасведчанне з 7-га класа, 6) пасведчанне аб здароўі (з найбліжэйшага пункта аховы здароўя), 7) два здымкі.

Будуць экзамены з:
1) польскай мовы
2) беларускай мовы
3) матэматыкі.

Тыя школьнікі, якія не вучыліся беларускай мовы ў пачатковай школе, будуць экзамены здаваць толькі з польскай мовы і матэматыкі. Беларускую мову будуць здаваць у снежні пасля падрыхтоўчага курса.

Выдатнікі з 7-га і 8-га класаў, гэта значыць тыя, якія маюць ацэнкі ў пасведчанні на выдатна і добра (5 і 4), могуць быць прыняты без уступных экзаменаў.

Ёсць магчымасць атрымаць стыпендыю, а ў бельскім ліцэі нават інтэрнат. Набор вучняў у ліцэі будзе працягвацца да 20 чэрвеня. Бельскі ліцэй вядзе набор у 3 першыя класы, а гайнаўскі — у 2 класы.

Падаем адрасы ліцэяў:

**Liceum Ogólnokształcące z białoruskim językiem nauczania w Bielsku Podlaskim, ulica Kopernika 4.**

**Liceum Ogólnokształcące z białoruskim językiem nauczania w Hajnówce, ul. Wyzwolenia 5.**

# ЛІЦЭЙ ФІЗКУЛЬТУРНІКАЎ

Гайнаўскі беларускі ліцэй вядомы як ліцэй, дзе вырастаюць маладыя фізкультурнікі. Аб гэтым вядома не толькі ў Гайнаўцы, але... Зрэшты, пераканайцеся самі.

У гэтым годзе члены каманды жанчын валейбалістак (юньёрак) беларускага ліцэя ўжо трэці раз заваявалі чэмпіянат акругі сярэдніх школ. Валейбалісткі ліцэя прадстаўлялі Беластоцкае



Скачок выконвае Ніна Касько.

ваяводства на чэмпіянаце спартыўных клубаў Польшчы. Па сённяшні дзень асталіся ў дзяўчат успаміны іґры не абы з кім, а з самым чэмпіёнам Польшчы ЛКС — Лодзь, а таксама МКС — Варшава—Прага і з Люблінам. Гэта самыя моцныя каманды ў Польшчы, і толькі ліцэісткі гайнаўскага беларускага ліцэя маглі дабіцца такіх поспехаў, каб іграць з чэмпіёнамі.

Характэрным для фізкультурнай дзейнасці ў гайнаўскім ліцэі ёсць той факт, што рады маладых фізкультурнікаў папаўняюцца безупынна. Хай сведчаць прыклады. У 1968/69 навучальным годзе малодшыя валейбалісткі (млодзічкі) таксама заваявалі чэмпіянат Беластоцкай акругі, а хлопцы, міма, што іх у школе нямнога, здабылі другое месца ў акрузе (млодзікув).

Развіваюцца таксама і іншыя віды спорту. Як доказы гэтага — шматлікія кубкі і дыпломы, якія ўпрыгожваюць сцены гайнаўскага ліцэя.

Рэпарцёр наведаў выпадкова ўрок фізкультуры. Урок мелі дзяўчаты II «а» класа з настаўніцай **Зояй Колпа.** Заняткі адбываліся на вольным паветры, і ўсе дзяўчаты былі заняты падрыхтоўкай да спартакіяды. Кожная выбрала сабе адпаведны від спорту, якому хоча прысвяціць свой час і асягнуць магчыма добрыя вынікі. Напрыклад, **Оля Місеюк** займалася дыскам, **Надзя Юрчук** штуршком ядра, а **Ніна Касько** — скачком у вышыню. Група іншых дзяўчат трэніравала «піраміду». На ўроку была свабодная атмасфера, а настаўніца З. Колпа давала ўказанні, папраўляла трэніровачныя заданні. Як у сапраўднай школе спорту.



Штуршок ядром выконвае Надзя Юрчук.

Оля Місеюк займаецца дыскам.

І тут прышлі мне на думку словы дырэктара ліцэя **Аляксандра Іванюка,** які, гаворачы аб моладзі свайго ліцэя, пералічваў, што ў асноўным гэта моладзь даязджаючая з вёсак. І з гэтай моладзі атрымоўваюцца добрыя спартсмены.

**Аляксей Карпюк**
фота аўтара



Груповыя заняткі вядзе настаўніца Зоя Колпа.

---

за ўсё пазнаёміць і згуртаваць наш калектыў, стварыць цёплую і зычлівую атмасферу. Пазней у нашай дзейнасці знайшлі месца такія выдатныя юбілеі, як 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, 50-годдзе Савецкай Арміі, 50-годдзе Камуністычнай партыі Польшчы і — нядаўна — 50-годдзе БССР. Мы стараліся таксама пазнаёміць нашых членаў з дасягненнямі нашых паэтаў. Адбыліся аўтарскія сустрэчы з В. Шведам і А. Барскім. У апошні час Беларускае таварыства ў Гданьску выступіла да мясцовых улад з ініцыятывай арганізавання супольна з усімі таварыствамі, якія дзейнічаюць у Труймесце, акадэміі, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Леніна. Нашу ініцыятыву прыхільна прынялі мясцовыя ўлады.

Фота Цаф — Сянько

У ацэнцы членаў, а таксама мясцовых улад, дзейнасць наша выглядае станоўча. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца стварэнне аддзела.

Гаворачы аб дасягненнях нельга прамінуць і цяжкасцей. Асноўнай з іх — брак памяшкання. У сучасных памешканёвых умовах немагчыма шырэй разгарнуць нашу дзейнасць. А нашы планы шырокія. Хацелі б мы арганізаваць цыкл дакладаў па гісторыі БССР і беларускай літаратуры. Ёсць на гэта запатрабаванне. Хацелі б таксама арганізаваць невялікі хор і бібліятэку. Усё будзе гэта магчыма, калі будзем мець свой клуб. Другой справай, якую таксама нельга адлажыць, гэта прызнанне нам аднаго штата. Без штатнага працаўніка цяжка кіраваць аддзелам, колькасць членаў якога заўсёды павялічваецца. І апошняя справа — наша сувязь з Беласточчынай. Маю на думцы факт, што не заўсёды прыходзіць да нас «Ніва». У апошнія месяцы мы нават не ведалі, што аб нас пісалі і што дзеецца ў іншых аддзелах і гуртках. Таму я хацеў бы прасіць, каб новае Галоўнае праўленне аказала большую дапамогу нашаму аддзелу ў развязанні хоць гэтых найважнейшых праблем.

---

(Працяг са стар. 3)

# НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ШКОЛЬНІЦТВА

была паступовая ліквідацыя беларускіх і беларуска-польскіх школ.

Размеры сённяшняй публікацыі не дазваляюць на шырэйшае ахарактарызаванне цікавага і карыснага даследвання Ст. Мауэрсберга. Пры аказіі будзем вяртацца да цікавейшых даных і сцвярджэнняў аўтара. У заключэнні хочацца звярнуць увагу ўсіх зацікаўленых, што ў канцы працы ёсць падана вельмі багатая бібліяграфія, якая датычыць нацыянальных спраў у міжваенны перыяд.

Можна толькі шкадаваць, што праца выйшла тыражом 500 экз. і яе цяжка атрымаць, а вельмі ж прыдалася б у бібліятэках напр. беларускіх школ. Даследванне Мауэрсберга гэта неацэнны дапаможнік пры ацэнцы даследванняў нацыянальных спраў, а ў тым і асветных, за перыяд існавання народнай улады ў Польшчы.

**А. Лабановіч**

*) Stanisław Mauersberg — Szkolnictwo powszechne dla mniejszości narodowych w Polsce w latach 1918—1939, Zakład Narodowy im. Ossolińskich, Wyd. PAN, Wrocław 1968 r.

---

З метадычнай паліцы настаўніка

# ЗАКЛЮЧНАЕ ПАЎТАРАННЕ

У чацвёртай чвэрці ёсць магчымасць зрабіць поўны агляд пройдзенага матэрыялу, высветліць галоўнае, устанавіць сувязі паміж асобнымі раздзеламі, тэмамі.

Вельмі карысна пры паўтарэнні супастаўленне, параўнанне, высвятленне адрознення або падабенства пэўных моўных з'яў. Так, скажам, калі вывучаны ўсе часціны мовы, карысна параўнаць іх змяненне, правапіс канчаткаў, суфіксаў. Можна таксама сфармуляваць вывады аб правапісе **не (ня)** з рознымі часцінамі мовы і інш.

Вопыт падказвае, што паўтарэнне павінна займаць параўнальна нямнога часу, але быць больш частым. Так, скажам, тэму «Фанетыка» варта паўтараць на некалькіх уроках, адводзячы на гэта мінут па дзесяць, пасля чаго робіцца вывад і праводзіцца адпаведная пісьмовая работа: выбарачная, тлумачальная ці творчая дыктоўка, пісьмовы граматычны разбор, ізлажэнне, сачыненне. Вуснае апытванне праводзіцца звычайна так: класу ставяцца пэўныя пытанні па матэрыялу паўтарэння, вучні даюць разгорнутыя адказы, прыводзяць уласныя прыклады.

Можна сарганізаваць і так паўтарэнне, што настаўнік раздае вучням карткі з заданнямі, затым праводзячы апытванне. Такая форма паўтарэння дае магчымасць пры мінімальнай затраце часу ахапіць усе асноўныя пытанні тэмы і разам з тым уключыць у работу вялікую колькасць вучняў. Картка можа змяшчаць адно-два ці больш пытанняў. Мэтазгодны і заданні практычнага характару. Пасля адказу па картках можна прапанаваць адпаведную пісьмовую работу.

Галоўнай задачай заключнага паўтарэння — прывесці ў сістэму ўсё пройдзенае за год, стварыць у вучняў цэласнае ўяўленне аб прадмеце.

Што канкрэтна варта паўтараць у канцы навучальнага года?

Перш за ўсё — больш важныя тэмы і раздзелы, а таксама асобныя правілы і вывады, на якія вучні часцей дапускаюць памылкі. Практыка паказвае, што карысна будзе спыніцца на правапісе галосных **о, э, ё, е, я,** звонкіх і глухіх, свісцячых і шыпячых зычных, мяккага знака, падоўжаных зычных, правапісе прыставак, складаных слоў.

Пры паўтарэнні часцін мовы праводзіць абагульняючыя гутаркі аб значэнні і ролі часцін мовы, паўтараць спосабы змянення назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў, успомніць выпадкі пераходу адной часціны мовы ў другую, замацоўваць правапіс суфіксаў назоўнікаў і прыметнікаў.

Нельга абмінуць правапіс канчаткаў назоўнікаў першага скланення ў родным склоне множнага ліку, другога скланення ў творчым склоне адзіночнага ліку. Трэба спыніцца на ступенях параўнання прыметнікаў, склонавых канчатках, правапісе прыметнікаў з суфіксамі **-нн-, -ск-** і **-к-,** правапісе складаных прыметнікаў, а таксама правапісе **не (ня)** з рознымі часцінамі мовы. Варта разгледзець скланенне лічэбнікаў і іх сувязь з назоўнікамі, правапіс неазначальных і адмоўных займеннікаў.

Што датычыць сінтаксісу, то тут таксама ёсць магчымасць выкарыстаць розныя паўтарэнні. Члены сказа варта паўтарыць практычна: шляхам граматычнага разбору, падбору адпаведных прыкладаў і інш. Карысным будзе складанне зводнай табліцы выражэння членаў сказа.

На відах простых сказаў можна спыніцца пры аналізе тэкстаў і асобных сказаў. Супастаўленне, параўнанне, вызначэнне відаў сказаў дапамогуць грунтоўна замацаваць гэтую тэму.

Словы, граматычна не звязаныя з членамі сказа, разглядаюцца на прыкладах, падабраных для паўтарэння іншых тэм. Зваротак карысна паўтараць у сувязі з простай мовай — тут ён часцей сустракаецца.

Складаныя сказы добра паўтараць на схемах і табліцах. Найбольш важнай з'яўляецца тэма «Бяззлучнікавыя складаныя сказы». Разглядаць іх варта ў супастаўленні са складаназлучанымі сказамі.

Паўтарэнне ў канцы года дапаможа вучням лепш асэнсаваць пройдзены матэрыял.

А.К.

 




### Новы гадзіннік

Мы так прывыклі да характэрнага «цік-так» усіх гадзіннікаў, што не ўяўляем сабе адно без другога. А вось гэты гадзіннік асаблівы. Калі паднесці яго да вуха, дык замест знаёмага «цік-так» мы пачуем слабы няспынны гук, які нагадвае звон струны.

Гэта электронны гадзіннік. У яго мініяцюрным корпусе размешчаны малюсенькая батарэйка, кандэнсатар, супраціўленне, два магніты, дзве катушкі-пераўтваральнікі і транзістар. Ніякага маятніка няма.

Сэрца электроннага гадзінніка — маленькі камертон, на вілцы якога знаходзяцца два магніты. Яны вагаюцца ўнутры дзвюх катушак, токам у якіх кіруе транзістар. Ён стварае высокапастаянную частату вагання камертона (гэта ён і звініць, як струна!)

Камертонны гадзіннік не баіцца ні холаду, ні спёкі, ні ўздзеяння магнітнага поля.






Пінгвіны.




## Таблеткі ці сіла волі?

Аб адным нямецкім філосафе вядома, што ён мог за месяц выпіць каля 50 грамаў вельмі моцнага насоннага парашку. Так працягвалася 11 гадоў. А ў наступныя 11 гадоў ужо не было філосафа: быў псіхічнахворы, які насіў тое самае імя.

Аднак філосаф, аб якім ідзе гаворка, захварэў на дзесятак гадоў раней, чым пачаў прымаць насонныя таблеткі, так што самае злоўжыванне лекаў можна было расцаніць як праяву хваробы. Але колькі людзей у наш час, будучы зусім нармальнымі, але мучаючыся ад бяссонніцы, ідуць па яго прыкладзе? Такія людзі ў наш час маюць аблегчаную дарогу: цяпер ёсць дзесяткі, нават сотні лякарстваў, якія прыспешваюць засынанне, адны хутчэй, іншыя даюць даўжэйшы сон. Пасля адных чалавек будзіцца з цяжкай галавой, а пасля іншых — абуджэнне вельмі прыемнае.

«Магчыма, — скажа нервовы гараджанін. — Але што рабіць? Спаць жа ж трэба! Заўтра да працы, а да водпуску яшчэ далёка! Добра гаварыць, калі спіш кожную ноч сном дзіцяці. А вы ўявіце сабе... Ляжыш з закрытымі вачыма, а перад табой усё праносяцца і праносяцца дзённыя сцэнкі. А горш за ўсё пасля напружаных разважанняў: яны цягнуцца далей, няма ім канца, бясплодным, прычэпным, механічным! І над усёй гэтай мітуснёй у мозгу гучыць трывожнае: «Засну ці не? Мабыць, не. Здаецца, засынаю... Не, не засну». Цікава, хто з тых, што перажываюць такое з ночы на ноч, не пабяжыць нарэшце ў аптэку па таблеткі на сон?»

Сапраўды, справа непрыемная. Вядома, нельга вінаваціць чалавека ў тым, што яго нервовая сістэма залішне ўзбуджана. Але да таго, як узяць з трубачкі таблетку, неабходна запытаць сябе:

—Ці ўсё я зрабіў, што ў маіх сілах, каб заснуць?

Людзі, распешчаныя поспехамі фармакалогіі, нават і не здагадваюцца, што яны самі могуць наладзіць свой сон. Ці варта адразу хапацца за хімічныя сродкі?

Перш за ўсё трэба так збудаваць свой дзень, каб на вечар не адчувалі сябе стомленымі. Калі ж наадварот, іменна, тады, як трэба ісці спаць, вы робіцеся ажыўленымі і размоўнымі, значыць, удзень было штосьці «не так». Магчыма, што вас не цікавіць ваша праца, вы працуеце напаўсілы, няма ў вас адпаведнай з сябе «аддачы». Тады варта нават падумаць аб перамене месца працы.

Але часта чалавек не можа заснуць, нават калі адчувае сябе вельмі стомленым. І гэта самае цяжкое. Так бывае пасля напружанай шматгадзіннай працы. Некаторыя думаюць, што хопіць падвечар кінуць працу і заняцца чымсьці пустым: глядзець абы-што ў тэлевізары, разгадваць красворды і г.д. А гэта памылка. Пераход ад працы да адпачынку павінен быць паволны.

Інжынер, які ўвесь дзень мучыўся над рашэннем тэхнічнай праблемы, прыйшоўшы дадому, бярэцца праглядаць часопісы. Яго мозг працуе далей, але ўжо больш спакойна. Пазней інжынер глядзіць тэлевізійную праграму.

Але як быць з думкай, якая здаецца, вось-вось дойдзе да «самай справы?» І



раптам яе трэба заглушыць з нейкіх там медыцынскіх меркаванняў.

Няма чаго баяцца. Рашэнне «не ўцячэ», раней ці пазней яно выплыве ў памяці, калі не на яве, дык у сне.

Цудоўнага правіла трымаўся Эрнэст Хэмінгуэй. Вечарам ён спыняў працу іменна ў той момант, калі ў яго ўяўленні выразна ўставалі наступныя старонкі кнігі. Пісьменнік разумеў, што найлепшыя сілы ўжо выкарыстаны, і, не паддаючыся спакусе, адкладваў усё на раніцу. Шкада, што не ўсе валодаюць такой самадысцыплінай.

Калі вы навучыліся падвечар паступова расслабляць напружанне ў працы, а заснуць усё-такі не ўдаецца, зрабіце яшчэ некалькі практыкаванняў:

Перад сном зрабіце 10—20-мінутны шпацыр. Рабіце гэта штодзень.

Перад тым, як легчы спаць, патрымайце некалькі хвілін ногі ў цёплай вадзе.

Лежачы ў пасцелі, адкіньце коўдру. Паляжыце так некалькі хвілін, пакуль вам не зробіцца халаднавата. Тады накрыйцеся і спіце.

Аб чытанні ў ложку можна было б сказаць, што гэта недапушчальна, але некаторым гэта дапамагае. Вядома, гледзячы якое чытанне. Зразумела, што цікавую кніжку на сон лепш не чытаць. Найлепш чытаць нейкую навуковую літаратуру, добра нават, каб на замежнай мове. Так вы хутчэй змучыцеся і заснеце.

Пастарайцеся прымусіць сябе спаць любым з гэтых спосабаў, або ўсімі разам. І калі нават стамленне вашай нервовай сістэмы зайшло так далёка, што лекар прыпісаў вам лякарства (а гэта можа зрабіць толькі лекар), успрыймайце лякарства як часовую меру, як дапамогу ў вашых уласных намаганнях.

Паводле А. Дабровіча
(Я)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Калі яд кобры бяссільны...

Уладальнікам зайздроснага імунітэту да ядаў самых смертаносных змей аказаўся варан — жыхар сярэднеазіяцкіх пустынь. Гэтыя велізарныя яшчаркі, як паказалі доследы вучоных, без усялякай для сябе шкоды пераносяць такую дозу яду кобры, якая змагла б забіць чатыры тысячы чалавек. Таксама стойкі імунітэт варана і да вялікіх доз яду не менш страшэннай змяі — гюрзы. Цікава адзначыць, што яд апошняй па свайму дзеянню з'яўляецца антыподам яду кобры.

Такую ўстойлівасць «кракадзіла сярэднеазіяцкіх пустынь» да ядаў кобры і гюрзы, універсальных супрацьзмяіных вучоныя лічаць з'явай выключнай. Вывучэнне асаблівасцей біялогіі варана, на думку спецыялістаў, дазволіць чалавеку раскрыць законы стварэння ўніверсальных супрацьзмяіных сыраватак.




### ТОРТ

Расцерці 8 жаўткоў са 150 грамамі цукру, пакуль сумесь не пабялее. 8 бялкоў збіць з дробачкай солі і 30 грамамі цукровай пудры, пакуль сумесь не загусцее. Пастулова ўліць бялкі ў жаўткі, дадаць 180 грамаў прасеянай мукі, нацёртай на тарцы лімоннай цэдры і крыху лімоннага соку. Пакласці сумесь у дзве аднолькавыя формы, спячы бісквіт, пасля чаго разрэзаць кожны на дзве палавінкі, каб атрымаліся чатыры пласты. Прамазаць іх наступным крэмам. 3 яйкі (цалкам) збіць з 300 грамамі цукровага пяску на паравой бані. Не перастаючы пямешваць, дадаць для колеру какао, затым пакласці 300 грамаў сметанковага масла. Гатовы крэм астудзіць, дадаць у яго крыху рому або каньяку. Зверху торт намазаць крэмам.

### БЕЛАРУСКАЯ МОДА



Маладзёжны касцюм для службы.
Фота В. Казлова

**Пачынаем друк новай рэчы пра вайну. Гэтым разам падзеі будуць адбывацца ў сталіцы Беларусі — Мінску. Усё, што будзе апісана — праўда, не будзе аўтарскай выдумкі. Будуць сапраўдныя героі, якія жылі і змагаліся не па загаду пісьменніка. Некаторыя з іх жывуць і сёння. Дзякуючы ім і напісана гэта хвалюючая кніжка пра яшчэ адну старонку гераічнага змагання беларускага народа з фашызмам.**




### ПАЧЫНАЛАСЯ ТАК...

Вы памятаеце, мінчане, як у ваш горад прыйшла вайна? Памятаеце летні, поўны сонца дзень, на які было прызначана адкрыццё Камсамольскага возера. Таго самага возера, куды ўжо некалькі гадоў запар хадзілі вы з рыдлёўкамі ў свае «суботнікі» і на якое ўскладалі столькі надзей: будзе нарэшце і нам дзе пакупацца. Памятаеце свае планы на той дзень, свой настрой, свае сустрэчы. І нават сукенкі і касцюмы, што былі на вас у той дзень, пэўна, таксама можаце аднавіць у думках.

І... бомбы, бомбы, бомбы... На ваш дом. На вашу вуліцу. На школы. На бальніцы. У чорным дыме Савецкая, Ленінская, Энгельса, Даўгабродская... Першыя страты, першыя ахвяры. І разгубленасць, і адчай, і ўсё яшчэ вера ў тое, што гэта «часова», што фашыстам проста неяк выпадкова ўдалося прарвацца, што не сёння-заўтра іх адгоняць і ўсё будзе як раней, усе родныя і блізкія знойдуць адно аднаго, і гэтыя дні будуць здавацца неспадзяваным жудасным сном.

Людзі пакідалі горад. Развітваліся з мірным жыццём, надзеямі і радасцямі. Ішлі на ўсход, неслі на руках дзяцей. А як толькі пачало світаць, зноў у небе з'явіліся нямецкія самалёты. Цяпер ім не трэба было ніякіх арыенціраў. Горад гарэў яркім полымем, на дзесяткі кіламетраў відно было зарава. А людзі ішлі, не спыняючыся ні на хвіліну, толькі зрэдку азіраліся туды, дзе палалі пажары.

А ў небе кружылі фашысцкія сцярвятнікі, спускаліся зусім нізка, бамбілі і расстрэльвалі з кулямётаў бяззбройных людзей...

Усе, пра каго мы будзем расказваць, перажылі тое самае, што і вы. І гэтаксама шукалі родных — хто дачку, хто сына, хто жонку, хто мужа — і спадзяваліся, што не сёння — заўтра ўсё скончыцца. Але скажыце шчыра: пэўна, нямногія з нас у тыя мінуты думалі пра тых няшчасных, удвая няшчасных людзей, якіх вайна напаткала ў бальніцах? Пра цяжкахворых, якія не маглі падняцца з ложка, пра раненых байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі, якіх паспелі даставіць з першых баявых пазіцый, урэшце, пра дзяцей, якіх па розных прычынах, не паспелі забраць з бальніцы бацькі. Што з імі? Хто з імі?.. Можа ўсе разбегліся ратаваць сваё жыццё і пакінулі іх, бездапаможных, адных, пад бомбамі, пад агнём?..

...Гэта быў яшчэ не подзвіг. Гэта быў толькі абавязак. У бальніцах горада дзяжурныя ўрачы, сёстры, санітаркі круглыя суткі аставаліся на сваіх пастах. Але цяпер, праз шмат гадоў, калі расказваюць яны, як гэта было, — як гарэлі бальнічныя карпусы, як выносілі з іх цяжкахворых і пасляаперацыйных, як медыцынская сястра Сакалоўская легла пасярод вуліцы і не ўстала, пакуль чарговая машына не забрала паралізаваных дзяцей; калі расказваюць, як супакойвалі тых, хто панікаваў, як аперыравалі пад бомбамі і як прымалі роды ў гэтыя хвіліны — жыццё ёсць жыццё, — слухаеш і думаеш: не так далёка ён быў ад подзвігу, вось гэтак выкананы абавязак...

На шашы — натоўпы людзей. Маладая дзяўчына ідзе побач з цяжка нагружанай падводай. Трымае лейцы ў руках і пазірае ў неба. Яно такое яснае і чыстае. Раптам вуха ловіць рокат матора. Злавесны гук набліжаецца. Усе, хто можа бегчы, кідаюцца ў кусты збоч дарогі. Дзяўчына спрабуе павярнуць каня, ды дзе там! Круты адхон. Тады яна сцягвае з воза цяжкія целы раненых — аднаго, другога, трэцяга, чацвёртага... Адкуль толькі браліся сілы?

Нясцерпна пячэ чэрвеньскае сонца. «Піць, піць!» — шэпчуць патрэсканыя ад смагі вусны. А Марыйка аднаго за адным перацягвае раненых у больш надзейнае ўкрыццё. Самалёты з невялікімі перапынкамі паяўляюцца зноў і зноў. У другі ці трэці заход бомба разрываецца зусім блізка. Конь здрыгануўся са страху, памчаў невядома куды.

Што рабіць?

Па той бок шашы стаіць домік, ля яго высокі калодзежны журавель. Марыйка перапаўзае цераз дарогу, коціцца з адхону ўніз, ускаквае на ногі і бяжыць да доміка. На шчасце, брамка не зачынена. Рыпнулі дзверы. З хлеўчыка выйшла старая жанчына.

— Бабуля, любая, — кінулася да яе Марыйка, — сястра я медыцынская, сястра... А там, — яна махнула рукой у бок дарогі, — байцы раненыя ляжаць і гінуць ад смагі!



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## НАШЫЯ ЛЮДЗІ



Мікалай Каўнер жыве ў Ласінцы. 14 гадоў працуе на пошце пісьманосцам. Ён мае найбольш падпісчыкаў газет, бо аж 328 экземпляраў. На першым месцы з'яўляецца ў яго «Ніва», якой лік падпісчыкаў рэдка бывае, каб зышоў ніжэй 98, а найчасцей перавышае 100. Другое месца займае «Газета Беластоцкая» — 55 экз., а далей «Грамада», «Пшыяцюлка» і іншыя. Абслугоўвае ён вёскі: Гарадзіска, Крывец, Барысаўку, Калякаву Шыю, Гнілец, Крыніцу, Трыбудкі, Падбаравёску.

Сумленна вывязваецца ён са сваіх абавязкаў. Дзякуючы добраму кіраўніку і пісьманосцам, пошта ў Ласінцы за актыўную працу заняла першае месца ў Гайнаўскім павеце.

**М. Ялаў**
Ласінка

### У КЛЕНІКАХ

У вёсцы Кленікі (Гайнаўскі павет) добра працуе гурток вясковых гаспадынь (КГВ). Ён налічвае 28 асоб. КГВ утвораны нядаўна, але жанчыны патрапілі сарганізаваць курсы: кулінарны, крою і шыцця. Праведзена таксама курс па сельскагаспадарчай падрыхтоўцы. Клейніцкія жанчыны прыступілі нядаўна да конкурсу на найлепшы агарод. У бліжэйшым часе плануецца тут курс гатавання і арганізавання дзяцінца на летні перыяд. Працай гуртка кіруе мясцовы бібліятэкар Ольга Закройшчык.

✲

У Кленіках многа чытаюць. Бібліятэка штогод прымае ўдзел у розных конкурсах. У чытальніцкім конкурсе на беларускую кніжку бібліятэка заняла другое месца. Жыхары Кленік ахвотна чытаюць творы Янкі Купалы, Генрыка Сянкевіча, Якуба Коласа і Стэфана Жаромскага.

**Я. Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

### ВЫЙГРАЛІ МАТАЦЫКЛЫ

20-га мая ў Цэнтралі ПКО ў Варшаве адбылося чарговае лясаванне матацыклавых кніжак ашчаднасці.

У лясаванні брала ўдзел 8 581 грашовых укладаў на матацыклавую кніжку ашчаднасці. Вылясавана 28 узнагарод.

З Беласточчыны ўзнагароды ў пастаці матацыклаў вылясавалі 2 асобы.

Лясаванне ўзнагарод у пастаці матацыклаў адбываецца 20-га кожнага месяца. На кожныя 300 ашчадных кніжак вылясоўваецца адзін матацыкл.

Ужо з Беласточчыны ўласнікі ашчадных кніжак ПКО вылясавалі 207 матацыклаў. (мх)

---

З вадой і са збанком малака вярнулася Марыйка Жлоба да раненых. А ўначы пад'ехала на падводзе знаёмая бабуля і павезла іх у шпіталь.

...Праз некалькі дзён у Мінску былі немцы. А ў бальніцы горада паступалі новыя і новыя партыі раненых савецкіх салдат і камандзіраў. Аднойчы немцы прывезлі ў інфекцыйную бальніцу раненых, скінулі іх, як дровы. Сёстры цягалі здалёк ваду, грэлі яе ў катлах, абмывалі, перавязвалі раны. Разводзілі ў вёдрах глюкозу і паілі знясіленых людзей.

Не ўсіх удалося выратаваць. У моргу штабелямі ляжалі мёртвыя. Ніхто іх не лічыў... Возчык складаў па пяць чалавек у скрыню і закопваў. А жывыя? У праходных немцы паставілі ахову, але ў плоце былі дзіркі. І тыя, хто папраўляўся і мог хадзіць, уцякалі з бальніцы. У гісторыі хваробы ўрачы пісалі: «Памёр».

Неўзабаве ў горадзе з'явіліся аб'явы.

«За хаванне беглых ваеннапалонных — смерць!»

«За хаванне зброі, боепрыпасаў, радыёпрыёмнікаў — смерць!»

Новыя гаспадары «шчодра» абяцалі смерць, шыбеніцы, катаргу. Патрулі, аўчаркі, калючы дрот, аўсвайсы, вобыскі, шыбеніцы, гета, лагеры ваеннапалонных, СД, перапоўненыя турмы... Усталяваўся акупацыйны быт...

( Працяг за тыдзень)

### ПАЖАРНІКІ

У сувязі з тыднем пажарнікаў, які выпаў у гэтым годзе ад 18.V.69 г. да 25.V. 69 г., многія пажарныя адзінкі ў гэты час правялі цікавыя заняткі. Такія заняткі, між іншым, правяла пажарная адзінка з Фальварак Тыльвіцкіх. Прыехала яна ў вёску Патока, у складзе 15 асоб, каб паказаць патоцкім пажарнікам сваю спраўнасць. Заняткамі кіраваў камендант грамадскай каманды грам Сікора, які ў сваёй фальварскай адзінцы з'яўляецца прэзасам. Добра вёў каманду і начальнік добраахвотнай пажарнай каманды грам. Куклінскі.

Сярод радавых пажарнікаў вялікую спраўнасць выказалі Вайцех Абрамовіч, Эдуард Рагуцкі і многія іншыя.

Гэтая пажарная адзінка брала ўжо ўдзел у многіх акцыях барацьбы з агнём.

Патока
**Мікола Краўчук**

### МІКАЛАЙ АСТАПЧУК

Каб у вёсачцы Кавела знайсці добрага гаспадара, не трэба далёка шукаць. Хопіць, напрыклад, зайсці ў хату, дзе жыве солтыс Мікалай Астапчук, радны ПРН у Гайнаўцы. Нарадзіўся ён у 1945 годзе. Закончыўшы беларускі ліцэй, Мікалай Астапчук вяртаецца на вёску. Зараз жа памірае бацька, і маладому Мікалаю трэба было забрацца заўзята за гаспадарку. А гэта не простая справа. На вёсцы пачаў ён актыўна браць удзел у вырашэннях усіх хвалюючых справах аднавяскоўцаў. У 1964 г. выбіраюць яго членам пастаяннай камісіі пры ГРН у Ласінцы, а пасля паклікаецца судовым куратарам. Апрача таго з'яўляецца членам пленума Ваяводскага праўлення ЗМВ.

Гаспадарка Астапчука складаецца з 7 га зямлі. Ён многа кантрактуе збожжа і быдла. З 1 га ў сярэднім атрымлівае жыта 21 цэнтн., а бульбы — 200 цэнтн. Праяўляе сваю дзейнасць таксама ў міжгуртковай машынатрактарнай базе ў Курашаве.

— Да гэтага часу, — гаворыць Мікалай Астапчук, — мы шмат арганізавалі дапамогі старым сялянам, а таксама садзейнічалі развіццю культуры і асветы сярод моладзі.

У грамадзе Ласінка кожны цэніць тав. Мікалая Астапчука, як чалавека, які з'яўляецца застрэльшчыкам усяго новага.

**Міша Тэлешэўскі**
Рэпіскі

---




**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву на вёсцы, як кажуць, «забітай дошкамі». Нават святла ў нас няма. Пазнаёмілася я з Янкам тры гады таму назад. Я пакахала Янку, а ён мяне. Аднак бацькі мае не пазвалялі выйсці за яго замуж, таму што ён працуе на гаспадарцы. Я не паслухала бацькоў і мы ўзялі цывільны шлюб. Вяселля ніякага не рабілі. Але я асталася надалей у бацькоў. Яны мне не пазваляюць ісці да Янка, нагаварваюць, каб я ішла ў Беласток і там шукала працы. А якую ж я працу магу знайсці маючы толькі 7 класаў? Мінула ўжо 3 месяцы ад нашага шлюбу, а бацькі мае ўсё нагаварваюць мяне, каб я з Янкам разышлася. Янэк добры хлапец, кахае мяне, не п'е, мае добрую гаспадарку. Апрача таго ён прыгожы і прыстойны. Я пераканалася, што Янэк пакахаў мяне моцна.

Парай, Сэрцайка, што рабіць, ці паслухаць бацькоў, ці паступаць, як гаворыць маё сэрца?

**Валя з Гайнаўшчыны**

Валя! Ты ўжо з'яўляешся праўнай жонкай Янкі, і бацькі твае павінны гэта зразумець. Але тут, на маю думку, важнейшае ёсць тое, што Янка пакахаў цябе, а ты Янку, што ты бачыш у яго ўсе добрыя бакі, што пераканалася, што Янка вартасны чалавек. Не раю табе разыходзіцца з Янкам, а таксама ехаць у Беласток і шукаць працы. Ты павінна станоўча сказаць бацькам, што пойдзеш і далей за голасам свайго сэрца і розуму.

Мо хай Янэк пагаворыць з тваімі бацькамі. Калі бацькі ў ніякім выпадку не згодзяцца, дык ты тады павінна ўзгодніць усё з Янкам і перайсці жыць да мужа.

**Сэрцайка**

### ШКОЛЬНІКІ З ЛУКІ

Ранняй вясною гэтага года вучні са школы ў вёсцы Лука (Гайнаўскі павет) пасадзілі 2,5 га лесу ў ваколіцы Людвінава. Атрымалі 1500 зл. За гэтыя грошы 18 мая 68 школьнікаў паехала на экскурсію ў Белавежу. У Белавежы вучні наведалі музей, а затым вярнуліся ў Гайнаўку, дзе глядзелі цырк «Арлекін». Вучнямі апекаваліся настаўніцы: Тамара Ціванюк, Ірэна Леўша і Яўгенія Бароўская.

Усе вынеслі з экскурсіі найлепшыя ўражанні.

**Ц. Я.**
Лука

### 50 ТЫСЯЧ ЧЛЕНАЎ



**Зэнан Новак уручае кандыдацкія білеты ПАРП.**

Нядаўна ў Бранску адбылася ўрачыстасць уручэння 50-цітысячнага членскага білета Саюза вясковай моладзі (ЗМВ). Ва ўрачыстасці ўзялі ўдзел члены ЦК ПАРП Зэнан Новак і Аркадыюш Лашэвіч, сакратар ВК ЗСЛь Ян Рызнар, сакратар КП у Бельску Юзэф Пяхоўскі і старшыня Ваяводскага праўлення ЗМВ Казімір Пятроўскі. На ўрачыстасць прыбыло больш 300 членаў ЗМВ з усіх паветаў Беластоцкага ваяводства. Гасцей сардэчна павітаў старшыня Павятовага праўлення ЗМВ у Бельску Ян Войцюк. Аб росце маладзёжнай арганізацыі расказаў Казімір Пятроўскі. Пасля адбылася цырымонія ўручання членскіх білетаў ЗМВ. Настаўніца — Галена Пызоўская з Сямяціч атрымала членскі білет з № 49999, Лешэк Шэпятоўскі з Бранска № 50 000, а Ірэна Радуха з Сувалак № 50 001. Пасля гэтай цырымоніі Зэнан Новак і Аркадыюш Лашэвіч 20-ціасабовай трупе моладзі ўручылі кандыдацкія білеты ПАРП: 5-цітысячны кандыдацкі білет ПАРП атрымала Галіна Хылінская з Кольненскага павета. Тут жа былі таксама многім асобам уручаны медалі за заслугі для абароннасці краіны і адзнакі імя Янкі Красіцкага.

**В. Фалькоўскі**

### ПРАЦАВАЛІ Ў ЛЕСЕ

Кіраўніком школы ў Барысаўцы з'яўляецца тав. Леакадзія Баравік. Яе словы кожны цэніць і з прыхільнасцю выконвае загад. І так, вучні з Барысаўкі пад камандай кіраўніка Л. Баравік дня 13 мая 1969 г. кл. VI, VII і VIII, разам 38 чалавек, прынялі ўдзел у пасадцы лесу. На працягу 4 гадзін вучні засадзілі каля 2 га лесу.

**Т. М. Барысаўка**

### З ЖЫЦЦЯ ШКОЛЫ Ў ТРАСЦЯНЦЫ



**Веснавыя працы вучаніц СПР пры закладванні кампостаў. Фота — Андрэй Барысюк**

---

### СПРАВЫ БЫЛОГА МЯСТЭЧКА

У мінулым Орля мела правы горада. Цяпер іх не мае. Ёсць у гэтым мястэчку шмат старых апушчаных хат. Прэзідыум ГРН прадае іх за невысокія сумы ў першую чаргу тым людзям, якія жывуць у гэтых хатах.

Тут дрэнна яшчэ з асвятленнем вуліц. Запланавана, што ў гэтым годзе праведзена будзе ртутнае святло на найбольш рухлівых вуліцах.

На вуліцы Міцкевіча і Кляшчэлеўскай будуць уложаны ходнікі. А вуліцы Чырвонай Арміі і Свярчэўскага атрымаюць цвёрдую маставую.

Запланавана таксама ў гэтым годзе: выкапаць 3 калодзежы, выкапаць роў да меліярацыйнага рову. Ім пойдзе вада, якая заўсёды залівае вуліцы Орлі. (мх)

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Okno na Lunapark" (włoski), 10—11. „Winetou" (jugosł.), 12—15.

**Дубіны**

„Ostatni po Bogu" (polski), 14—15.

**Нараўка**

„Ucieczka w milczenie" (NRD), 11—15.

**Нарва**

„Rozwód z miłości" (węgierski), 11—15.

**Чыжы**

„Zosia" (radz.), 11—15.

**Дубічы Царкоўныя**

„Miałem 19 lat" (NRD), 11—15.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Szyfry" (polski), 11—15.

**Райск**

„Hrabina Cosel" (polski), 11—15.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Kapryśne lato" (czeski), „Kanał" (polski), 10—13.

**Міхалова**

„Opowieść o Leninie" (radz.), 10—11. „Godzina nadziei" (polski), 12—13. „Zabawa w masakrę" (franc.), 14—15.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Przeciwko Bogom" (polski), 10—11. „Trzy kroki po ziemi" (polski), 12—13. „Zakochana wiedźma" (włoski), 14—15.

**Шудзялава**

„Komedia pomyłek" (polski), 11—15.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Cena strachu" (franc.), „Kozacy" (radz.), 11—15.

**Новы Двор**

„Miłosne kłopoty" (radz.), 14—15.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7022

# ПРА ШТО Ў ЖОНКІ МОЖНА ПЫТАЦЦА

Неяк адзін муж спытаўся ў сваёй жонкі, што б яна рабіла, калі б ён, да прыкладу, узяў ды развёўся з ёю: жыла б адна ці выйшла б замуж за другога?

— А чаму цябе гэта раптам зацікавіла? — спыталася ў сваю чаргу ў мужа жонка.

— Ды проста так...

— Проста так нічога не бывае. Значыцца, ты і напраўду надумаў мяне кідаць.

— Адкуль ты гэта ўзяла?

— А тут і браць нічога ніадкуль не трэба. Калі б ты не думаў мяне кідаць, то б не пытаўся, як бы я жыла, калі б ты пакінуў мяне.

У той дзень муж і жонка ўпершыню пасварыліся. І не размаўлялі між сабою нешта з тыдзень.

Праз тыдзень муж не вытрымаў і звярнуўся зноў да жонкі:

— Слухай, Тацціяна, а ўсё ж скажы мне, чаму ты так раззлавалася, калі я спытаўся ў цябе, што б рабіла, калі б я ўзяў ды пакінуў цябе?

— Адстань, бессаромнік! — аж віснула жонка. — Я чакаю таго дня, той тадзіны, калі ты зробіш тое, што надумаў.

— Я нічога не думаў рабіць! Я толькі спытаўся...

— Каб не думаў, ты б не плявузгаў, не пытаўся б абы пра што!..

У той жа дзень муж і жонка пасварыліся зноў. І ўжо не размаўлялі цэлы месяц.

Праз месяц сварка ўспыхнула з новай сілай і ўжо не затухала, не сціхала як не штодзень...

Мінула паўгода. І маладая пара такі развялася. Толькі заяву на скасаванне шлюбу падаваў не муж, а сама жонка...

**Барыс Сачанка**



— Гэта лепш за ўсе банкі паможа!




## У АНГЛІЙСКІМ БАНКУ

Гэта здарылася ў невялікім ірландскім горадзе ў час дэвальвацыі фунта стэрлінгаў. Служачыя банка ўвесь дзень праседзелі без работы: не было кліентаў. Пад канец дня ўпраўляючы папрасіў свайго памочніка:

— Бінс, зачыніце, калі ласка, талоўны ўваход.

Праз некалькі хвілін памочнік вярнуўся і сказаў:

— Даруйце, сэр, галоўны ўваход зачынены. Мы забыліся яго адчыніць сёння раніцой.

## МАЛІТВА

Маё ты сціплае сумленне,
Дазволь звярнуцца да цябе!
Перад табою на каленях
Стаю — павер маёй мальбе!

І нат пры кашальку напоўным
Ты дай мне шчодрасць караля,
Каб я з начальнікам шаноўным
Не шкадаваў трапіць рубля.

Каб па тваёй, сумленне, волі
Быць раўнадушным да сябе
І не зайздросціць тым ніколі,
Хто едзе на чужым гарбе.

О, дай мне вытрымку, сумленне,
Як неразумнае дзіцячо
Дазволіць зняць з сябе адзенне,
Паклаўшы голаў на плячо.

Як твой дакор мяне не спыніць
Перад спакуснаю красой, —
Не дай мне грэшную пакінуць,
А дай мне ажаніцца з ёй.

Сумленне, мой суддзя ласкавы,
Ну дай, нарэшце, мне спакой!
Бо на мяне не без падставы
Даўно махнулі ўсе рукой.

А ты — як насланнё якое!
Табе б не дакучаў я, не,
Калі б і ты магло ў спакоі
Пакінуць назаўжды мяне.

**Яўген Верабей**

## Талаваломка

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 5 | | | | |
| | 2 | | | | 1 | | |
| | | | | | | | |
| | | | | | | | 2 |
| | | | | 3 | | | 4 |
| | | 4 | | | | | |
| | | | | | 1 | | |
| 3 | | | 5 | | | | |

На гэтым расчэрчаным у клетачку полі змешчаны пяць лікаў, кожны з якіх паўтараецца па два разы. Злучыце лініямі адпаведныя лікі (як, напрыклад, злучаны дзве адзінкі) так, каб лініі праходзілі праз цэнтр клетачак, не зліваючыся і не перасякаючыся паміж сабою.

Гэта значыць, што квадрацік, праз які ўжо праходзіць адна лінія, не можа быць перасечаны ніякай іншай. Урэшце кожная клетачка павінна быць або занята лічбай, або перасечана лініяй, злучаючай лічбы. Ні адзін квадрацік не павінен застацца пустым.

**Развязка задання з папярэдняга нумара: Ад'езд будзе ў 16 гадзін 40 мінут.**



## З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ КАТОЎ

Каты назіраюць з даху за п'яным чалавекам. Маладзенькая кошачка ў здзіўленні пытае:

— Што гэта з ім?

Стары кот адказвае, аблізваючыся:

— Мусіць, валяр'янкі перахапіў...

## УЗАЕМАЗРАЗУМЕННЕ

Размаўляюць двое сяброў:

— Мы з жонкаю ніколі не сварымся.

— А хіба не бывае, што вашы погляды ў чым-небудзь не сыходзяцца?

— Вядома, бывае, толькі жонка аб гэтым не ведае.

## ЯК ПАЗБАВІЦЦА АД ШУМУ

— Нядаўна атрымаў кватэру. Усё было б добра, але вельмі шумны раён. Першы месяц заснуць не мог.

— Трэба было на гэты месяц у вёску выехаць.

## У БАЛЬНІЦЫ

Урач пытаецца ў пацыента:

— Гэтую траўму вы атрымалі ў час аўтамабільнай аварыі?

— Так.

— Напэўна, вельмі шпарка ездзіце?

— Не, я вельмі марудна хаджу.

## САМЫ ПРАЗРЫСТЫ

— Скажы, Пеця, што на свеце самае празрыстае? — пытаецца настаўніца ў вучня.

— Мой тата.

— Чаму ты так думаеш?

— А мама часта гаворыць тату: «Я цябе, манюка, наскрозь бачу».

## ДАЛЁКАЯ РАДНЯ

— Скажыце, калі ласка, гэтая дзяўчына ваша радня?

— Ага, радня, але толькі вельмі далёкая. Нас у маці было трынаццаць. Я нарадзіўся першым, а яна апошняй.



Трэці лішні.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**По просьбе Ніны Баравік з вёскі Цюмічы, Сакольскага павета, змяшчаем песню п.з.**

## У ГРАНИЦЫ

**Стихи Н. Карташева, Музыка Е. Родыгина**

Над рекой туман,
За рекой граница,
Ну-ка, друг баян,
Что-то мне не спится...
Вспомним дом родной далекий,
Под окошком вязы,
Где встречались,
Где расстались,
С милой черноглазой.

Припев:

Жди меня, моя Маруся,
Чаще шли приветы,
Скоро я к тебе вернуся,
Не весной, так летом.

Над рекой туман,
За рекой граница,
Песня льется вдаль,
Улетает птицей.
Улетай, голубка, песня,
К милой на крылечко,
Дорогое,
Золотое
Передай словечко!

Припев.

Над рекой туман,
За рекой граница,
Может, там, в кустах,
Рыщет враг волчицей...
Только в край наш — знай, подружка, —
Зверю не прорваться,
А прорвется,
Так придется
С пулей повстречаться!

Припев.

## ШТО ТЫ ЛАВІЎ

— Дзе ты быў?
— Лавіў карасёў.
— І многа налавіў?
— Ніводнага.
— Адкуль жа табе вядома, што ты лавіў карасёў?

## ЯНОТ-ХВАЛЬКО

Ліса сустрэла Янота, на футры якога было шмат мядзвежай поўсці.

— Дзе гэта ты так вываляўся? — спытала яна.

— Ат, прыйшоў сёння Мядзведзь за маліну сварыцца. А я якраз не ў настроі быў. Дык я яму так даў, што ён ледзь уцёк на трох лапах. Будзе ведаць, як са мною сварыцца.

Ліса здзівілася і пабегла да Мядзведзя:

— Патапавіч, які сорам. Янот па ўсім лесе хваліцца, быццам адлупцаваў цябе. І поўсць з твайго кажуха паказвае, як доказ.

Мядзведзь спачатку раззлаваўся, а потым гучна зарагатаў:

— Вось шэльма, што прыдумаў! Гэта ж сёння венік мой некуды згубіўся. Аж бачу, Янот ідзе. Схапіў я яго ды і вымеў ім бярлогу.

**Т. Кундас**




## Вынік

У першым класе адной амерыканскай школы далі дзецям заданне. Паказалі ім два малюнкі. На адным дрывасек рубаў дрэва, на другім — мужчына чытаў кніжку. Дзеці павінны былі адказаць, які з гэтых людзей працуе.

Сямігадовы хлапец, узравень інтэлігенцыі якога ацэньвалі была вышэй чым сярэдняя, напісаў, што працуе чалавек, які чытае кніжку. Гэтым адказам расчараваў сваіх настаўнікаў, якія лічылі яго незвычайна здольным.

Пасля нейкага часу высветлілася, што хлапец з'ўляецца сынам вучонага, які часам, для адпачынку, рубае дрэва.

## Магнітафон супраць кароў



Неяк на ўзлётна-пасадачную паласу аэрапорта ў Бамбеі ўзбіўся статак кароў. Абслугоўваючы персанал адмовіўся іх праганяць, бо каровы ў Індыі лічацца свяшчэннымі. Тры самалёты кружылі над аэрадромам і не маглі прызямліцца. Паратунак з гэтага становішча знайшоў адзін служачы. Ён здагадаўся папрасіць у заапарку магнітафонную стужку з запісам тыгрынага рычання. Варта не было ўключыць у магнітафон, як каровы адразу рушылі з аэрадрома.

## Пацеха

У Новым Арлеане на будынку банка, які змяшчаецца побач з могілкамі, вісіць такі надпіс:

«Не забярэш таго там з сабою, але будзеш магчы прынамсі ляжаць побач».




Ведаючы прымаўку: «Раз зманіў — другі раз не павераць», ён спачатку дамогся, каб раз паверылі, а пасля сто разоў маніў.